## ХТО КУДЫ.

Перад самай школай можна пабачыць папярэдне, чым сапраўды скончыўся год навучання для самых старэйшых.

Некалькі дзяўчат і хлопец паступілі на навучанне ў ВНУ. Прафесіі, якія яны мецьмуць не надта важнецкія для кар"еры, але важныя для грамадзтва : гэта малаперспектыўныя педагагічныя прафесіі. Маладым людзям можна паспачуваць. Ва Ўсходняй Беларусі адукацыя і адукатары не мелі і не маюць высокага грамадзкага статусу; Лука і лукашыкі добра ўсселі на адукацыю, прынізілі настаўніцтва да роўню чарнарабочых на будоўлі і гэта добра адчувае люмпен. Якога толькі брыдоцця не пачуеш на адрас тутэйшых настаўнікаў. Да таго ж пакуль што прымітыўныя сацыяльныя адносіны ў вёсцы не патрабуюць ані добрых ведаў, ані агульнага разьвіцця.

Аграканцлагеры ахвотна паглынаюць непісьменных выпускнікоў з сярэдняй адукацыяй. Багата дзе ў прафесійныя вучэльні бяруць па конкурсу атэстатаў і калі бачаць, што атэстат мае сярэдні бал 3 ці 4, то разумеюць, што маюць справу з чыстым невукам і такіх адпраўляюць на дно сацыяльнай ямы- у калхоз пасьвіць валы. А паколькі гэтае дно размнажае само сябе, то невукі спараджаюць невукаў, якія грэбліва ставяцца да навукі і навучыцялёў і так цягнецца з камуністычнага прадвеку.

Застаюцца ў сяле пераважна толькі малаграматныя хлопцы. Дзеўкам тутака працы няма і яны абсалютна ўцякаюць у горад. Чыста мужчынскі асяродак мае свае хібы і яны навідавоку. Прападае вёска...

Хіба ж так, як улада, можна ставіцца да народу?? !

---

## ДАРАГІ КОШТ ТАННАЙ ЦАНЫ

Народны баявы лісток ужо пісаў пра жніво ў Дуброві з дранымі канбаямі і некваліфікаванай працоўнай сілай. Але такое ж становішча амаль усюды па Гомельскай вобласьці. Як едзеш па шашы, то зелянеюць рунню сціpты . пагана вытрасанай саломы . Такі рулон саломы можна сьмела рассьцілаць і атрымаць азімы палетак. Гэтае вынаходства варта і запатэнтаваць, як новае слова ў агракультуры. (Вядома, што ладнага адкрыццяў рабілася выпадкова).

От скажам і ў суседнім сяле, Кабульшчыні, палеткі таксама з усяе моцы зелянеюць, цешаць вока пасьля асенніх дожджыкаў і лагодных тэмператур.

Можна абурацца бязладдзем, што не парупілася пра належную падрыхтоўку канбаяў. Але ці мецьмем мы рацыю? Не!

Праслухоўваючы запісы мінулагодніх селектарных нарад Лукі прысьвечаных жніву, можна пачуць такую скаргу беларускага дыктатара. «... распрацавалі тэхналогію рамонту канбаяў... на ўзроўні намесьніка прэм"ер-міністра. Паехалі, прэзідэнт (то бо Лука) расказваў, паказваў... І што? Горш чым у мінулыя гады. Мяне гэта нават крыўдзіць». Дыктатар расказаў, паказаў і паехаў, а дабітыя канбаі засталіся. І ніякімі шаманскімі селектарнымі нарадамі іхніх дзірак не налапіць. Як і пературыць невука з сярэдняй адукацыяй у кваліфікаванага работніка.

Што ж... Які распрацоўшчык тэхналогіі рамонту канбаяў, такі і рамонт.

Прыгонная сельская гаспадарка нятанна абыходзіцца Беларусі. Гэтаксама як дорага абыходзіцца танная працоўная сіла і танная вясковая школа.

Кажуць жа ў народзе: скупярэча два разы плаціць.

---

## ТАТАЛІТАРШЧЫКІ ШЧЫРУЮЦЬ

Хай ніхто не сумняецца: ніякай перамогі над фашызмам не было. Таталітарны, люты рэжым бальшавіцкага кшталту жыў, жыве і, відаць, будзе жыць у няшчаснай Беларусі.

Пры таталітарызме няма палітыкі. Ёсьць адкрытая бессаромная прапаганда і прапагандысцкія групы, як ваўкалакі, гойсаюць па «працоўных калектывах» каб калектыўна дурыць людзям мазгі. От і ў Дуброву пад жніво прымчала такая «інфармацыйная» група. Сабрала яна ў працоўны час механізатараў на калхозным двары і распавяла пра жыццё і справы.

Рассаджаны народ слухаў пра цяжкасьці і дасягненні і ўспрымаў інфармацыю да ведама.

Ты бач, начальства гарадзкое прыехала.

Насамрэч, дзецюкі, начальства не прыехала: яно хавалася. Яно хавалася ад сапраўднай сустрэчы з народам, ад вострых пытанняў і ад праблем. Яно гаварыла пра тое, што было выгадна гаварыць, яно трымала ініцыятыву размовы. Гэта была гавара ў адны вушы.

Улада даўно гаворыць у адны вушы, не падстаўляючы свае пад іншую думку.

От зірніце: ніхто ў Дуброве не памятае, калі ў вёсцы быў гэтак званы «сельскі сход». Насамрэч, калі наша мясцовая ўлада не мае нічога сказаць народу, то яна зусім хаваецца і прападае. Ну, мо заедзе ў Прытыку да старых бабулек, паслухае іхнія скаргі, як конь паківае галавою і зьяжджае.

Хучэй за ўсё сельсавет піша фальшывыя справаздачы пра неправедзеныя сходы і робіць выгляд дзейнасьці.

Вы думаеце, сельсавет надта вінаваты? Ды не зусім. Мясцовыя дэпутаты ў нас нішто. Фінансаў сельсавет не мае. Лукашэнка знарок зрабіў, каб мясцовая ўлада- самая блізкая да народу,- была слабай і залежнай ад верху. Быў Доўгі. Не дагадзіў. Узялі, прагналі яго. Таксама выгналі жанчыну дэпутатку з дэпутатства, пасадзілі сп. Крывалапа. То ясна, што не ад народу залежыць улада, а ад ласкі «фюрэра». У Нямеччыне прама казалі, што ўсе галіны ўлады паходзяць ад «фюрэра». У Беларусі таксама.

... Сельскі сход у Дуброве меўся адбыцца ў жніўні. На механізатарскім двары.

Шчэ лепей было б у кабіне трахтара, туды меней народу залезе.

Прапануем тэмы для чарговага рэйсу «інфармацыйнай групы»

**«Як пры адсутнасьці грамадзкай лазьні выжыць да аграмястэчка і не завашывець?»**

**«Раённая вертыкаль і асабістая гігіена». «Прэзідэнт» і душ».**

# «САМЫЯ ШЧАСЬЛІВЫЯ НА СЬВЕЦЕ »

«гэта нашы радасныя дзеці, бо аб іх клапоцяцца няспынна партыя, народ і ўся краіна.» Так афіцыйна-ўзьнёсла трубіў нейкі паэт. Перабольшуваў, перабіраў ачко, але не надта.

Так, у сярэдзіне жніўня адбылася атэстацыя школы да новага навучальнага году. Гарадзкая камісія была задаваленая. У Дуброве правільна падхапілі лозунг «прыгажосьць ўратуе» і пастараліся. І трэба сказаць, што і тэхнічкі і настаўнікі пашчыравалі, хоць грошай на рамонт было небагата. Страху не чапалі, а яна, рубероідная, цяклівая амаль як рэшата.

Ды і ў іншых школах стрэхі цякуць: партыя, народ і ўся краіна не надта шчодрыя да адукацыі. <u>На фізічную культуру і ейныя прычындалы сёлета ў раёне не далі ні шэлега.</u>

Наагул, на рамонт і ўпарадкаванне навучальных і дашкольных установ партыя, народ і ўся краіна амаль не даюць грошай. Калі ж дырэктар ці загадчыца неяк недзе знойдуць грошы, партыя нахрапам патрабуе тлумачэння «Дзе ўзяў?», прыстае з апрыходваннем сродкаў і на ліхі лад, выкрутлівы начальнік можа сесьці ў турму. Вярхоўны старчаковы Шацілкаўскага раёну сп. Баляслаў так заявіў аднаму дырэктару: «З грашмі я і сам адрамантую, ты мне не трэба.  Ты без грошай адрамантуй!». Як у той казцы пра поліўку з сякеры.

А вось такая гісторыя. Нейкі замежны дабрадзей пабыўшы ў адной нашай школцы і пабачыўшы яе выняў з штаноў міжнародныя грошы/ еўры і аддаў дырэктару на рамонт. Дык цяперака той дырэктар адбіцца не можа ад начальнікаў, бо тыя патрабуюць справаздачу пра чужыя грошы! Ды юрыдычна іх няма, але справаздачу дай як мае быць! Так што і браць у дабрадзеяў небясьпечна.

Як заўсёды ў апошнія гады падручнікі па шэрагу прадметаў у школу не прышлі. Усё меней прыходзіць дзяцей і іхняя колькасьць імкліва імкне ўніз.

Зараз у школе мо 84 вучні. Як кажуць настаўнікі, якасьць дзяцей ніжэе і ніжэе, бо прыходзяць цяпер яны з неўладкаваных сем"яў-гэтага жахлівага масавага прадукту лукашысцкай эпохі.

У Кабульшчыні ды Гарохаўі таксама дзяцей у школах паменела, дзе 75, дзе 60. Як так будзе, то хто ж нас, пеньсіянераў, пракорміць? Лука ж не вечны.

На добры лад такім дробным школкам трэба іншы рэжым працы, але міністэрства адукацыі ў нас гаўнянае, міністр малпа, яму болей карціць як у школы пісьменнікаў не пусьціць, як студэнтаў шчэ болей заціснуць, як дыктатару латвей дагадзіць. Пра дзяцей і іхнія веды турбота не найпершая. Так і жывом. Канешне, Еўропа- гэта Еўропа. Нам пашанцавала. Бо багата дзе ў сьвеце дзеці аніблізка не бачаць такіх умоў для навучання. Нам як казка тое, што змалку дзеці ў бедных краінах мусяць цяжка працаваць, у школу не йдуць, бо яе ці няма, ці месца не хапае ўсім.

У Беларусі ганарацца «воінамі-афганцамі». Ганарыцца няма чаму, бо менавіта савецкая вайна зруйнавала краіну, пакінула мноства дзяцей сірот. **Дык чаму б замест крывадушных словаў пра змушаны геразім беларускаму ўраду не збудаваць у Аўганістане іншы помнік, а менавіта- дзесятак школаў для пазбаўленых шчасьця навукі аўганскіх дзетак.**

От гэта і было б сапраўднае ўсьведамлення таго страшнага, што адбылося.

# ЧАКАЕМ АГРАМЯСТЭЧКА

От ужэ мінуў жнівень, а ў арцелі Дуброва-Агра шчэ не давалі людзям сена. З гэтай нагоды ладнага народу пачынае казаць, што налета не будзе трымаць кароў.

Людзі старэюць, не маюць сілы ды і плошчаў для нарыхтоўкі сена, таму паволі прападае гавяда з сяла.

Камунізьм прыпаўзе да нас без нашай згоды ў форме вёсак састарэлых людзей. Татальны мёртвы камунізьм.

Лінія Сталіна...
Лінія страхоцця...

# ПАПРАСІЛІ ПАДМОГІ

У чэрвені і ліпені стаяла крэпкая сьпёка. Але гэта ж лета. У Аўстраліі цяперака зіма, але сьпёка стаіць адмысловая. Німа ніяк дажджу. Дык урад штату Квінслэнд папрасіў сьвятароў усіх рэлігій, памаліцца сваім багом і папрасіць дажджу.

У нас, як ведаюць усе, дож дае толькі адзін суперБог, як выказаўся ў свой час гаўляйтэр Берасьцейскай вобласьці. Таму ў Беларусі з дажджамі прашчэй. Папрасі Луку і ён дась.

Але найперш трэ беражыць тую ваду, што ёсьць у зямлі. Але беларускія дурні ізноў пачалі бязладную прымітыўную «меліярацыю» у нашых бедных на ваду мясьцінах. От наплачуцца пасьлей, ды позна будзе. А мо і плакаць не будзе каму...

# ЖЛУКЦЯЦЬ З ПАТУРАННЯ ДЗЯРЖАВЫ.

МанапОлька...

Яна прытулілася ў сярэдзіне Дубровы і тырчыць у ёй, як клешч на палойцы. Ад ранняга рання і да вячэрняе прахалоды крыцаю сядзяць на дубовых кульбяшах ля манапольк мясцовыя выпівакі і жлукцяць і цундзяць таннае пойла з дзяржаўных пойлавых заводаў.

Здэцца, публічнае спажыванне алкаголю не дазваляецца законам, але цундаў ніхто не чапае. Данежне! Прагані іх з кульбяшоў, дык і паступлення грошыкаў у казну паменее. Хай п"юць...

Хто ж п"е?

П"юць пеньсіянеры, прафесійныя камуністы, якія за «парцію», якую яны прадалі і якую страшна любяць, гатовыя бэнээфу вочы выдраць. П"е люмпен-пралетар, які неяк здабывае грошы на пойла. П"юць мужчыны рэпрадуктыўнага працоўнага веку. Зьбяруцца вакол кульбяша, як мухі ля каўляша і пакланяюцца пляшцы пойла псівага колеру.

П"юць і бабу, але яны хаваюцца па хатах. П"юць і хворыя на цукроўку. Дык ці ж дзіва, што могілкі прынялі багата мужчын сярэдняга веку.

А ў сельсавета адзін клопат- платы.

## ДАВАЎ І ДАЕ ВЯЛІКІЯ СПАДЗЕВЫ.

Вялікія спадзевы даў таварыш Фідэль Кастра Рус, кубінскі дыктатар ад 1959 году, кубінскай эміracыі, калі патрапіў у шпіталь з сакрэтнай дзяржаўнай хваробай.

Уладу тымчасам ад яго пераняў родны брат Рауль. Ужо 47 гадоў браты з хаўрусьнікамі кіруюць Кубай.

Сьпярша Кастра абнадзеіў народ, арганізаваўшы ліквідацыю непісьменнасьці, ліквідаваўшы элементарную галечу, наладзіўшы медыцыну, забраўшы ў дзяржаву амерыканскую маёмасьць. Але ён забраў у народа практычна ўсе свабоды, адрэзаўшы шлях да наступнага прагрэсу. Незадаволеныя рэжымам Кастраў патраплялі надоўга ў турмы, ссылаліся на востраў Пінас.

Савецкі Саюз кажныя суткі даваў Кубе болей за мільён даляраў. (Каб жа ён даваў столькі нашай Беларусі!)

У 1961 годзе Кастра казаў на здаравенным мітынзе ў Маскве, што ліквідаваў прастытуцыю. Цяперака турызм для іншаземцаў і прастытуцыя, ды шчэ кажуць, міжнародны гандаль наркатою- асноўныя крыніцы дзяржаўных даходаў. Зямля на Кубе ўрадлівая, але народ ўвесь час недаядаў, дайшло да таго, што людзі ад неядзі пачалі сьпепці. Багата людзей кінуліся праз мора ў Сазлучаныя Штаты Амэрыкі. Сьпярша Кастра іх пераймаў, а потым пад гэтую марку выпусьціў з турмаў усіх крымінальнікаў, з лякарняў- псіхічна нездаровых -нашто іх карміць!-і дазволіў уцякаць у Амэрыку.

У Амэрыцы жыве багата кубінцаў, якія не любяць Кастру. На Кубе іх завуць «гусанас»- чарвякі. «Чарвякі» не называюць Кастру іначай як «асэсіно», то бо «забойца».От гэтыя кубінцы і радаваліся, што знаходжанне Кастра ў лякарні- прыкмета недалёкай сьмерці дыктатара.

Жонка Кастры таксама жыве зь дзецьмі ў Амэрыцы. Кажуць, што на Кубе ад палюбоўніцы Кастра мае мо пяць ці шэсь дзяцей.

Кастра- у нас яго часам звалі «кайстра»-сапраўды, падаваў спадзевы на лепшую будучыню для свайго народу, але канчае жыццё як гаўняны дыктатар.

Дадамо, што вывучэнне прыгожай іспанскай мовы ў Беларусі пачалося акурат у 60 гады мінулага стагоддзя дзякуючы ўплыву кубінскай рэвалюцыі і дайшло было нават да Дуброўскай школы.

Але з-за няграматнасьці начальства мову гэту амаль выжылі з школ Беларусі. А шкада.

Беларуская апазіцыя мае добрыя кантакты з кубінскай апазіцыяй. Беларуская дыктатура мае добрыя пачуцці да дыктатуры ў Гаване. Кастру нават запрасілі наведаць Беларусь, але, відаць, давядзецца некаму ехаць на хаўтуры.

Мы ж спадзяемся, што пасьля скону падманшчыка-дыктатара добры кубінскі народ мецьме болей шанцаў на дабрабыт і свабоду.

Застаецца варажыць, што асталося ад лозунгу кубінскай рэвалюцыі «Patria o muerte»/ Радзіма альбо сьмерць.

## БУДЗЁННЫ ФАШЫЗМ

Улада-нарэшце!- аканчальна зачыніла Саюз Беларускіх Пісьменнікаў. Можна толькі са скрухай зазначыць, што гэта не першы, і, канешне ж , не апошні дзікі вандалістычны варварскі ўчынак рэжыму па здушэнню нашай мовы, культуры, пісьменства. Тое, што гэтым самым улада пацьвердзіла свой гвалтоўны, рэпрэсіўны характар, што ўласцiва толькі непрыхавана фашыстоўскім рэжымам, не дзівіць. Шчыра прызнаючыся ў палкай любові то да Сталіна, то да Гітлера лукашысцкі рэжым даўно страціў палітычную прыстойнасьць.

Хто ж будзе ў Беларусі пісаць і выдаваць кнігі?

Каму назначаць пісаць, той і будзе

## КЛОПАТ ПРА ЧЫСТАПІСАННЕ.

Зьдзекліва паглуміўшыся з беларускіх пісьменнікаў дыктатар загадаў правесьці рэфармацыб беларускай граматы. Зацьвярджаць новы правапіс будзе ён сам.

Чаму? Мо пераймаючы свайго ідала Гітлера, які таксама загадаў пісаць газеты па-людзку, замяніўшы мудрагелісты гатычны шрыфт больш разборлівымі літарамі.

У новых прописах дарагое слова «прэзідэнт», кажуць, будзе пісацца з павялічанай літары, а «Нюрнберг, Гаага» з паменшанай.

## МАСКАЛІ ПАКРЫЎДЗІЛІСЯ.

У Англіі выдалі кніжку-шляхаводнік па Маскве, дзе пра яе напісалі, што горадам кіруюць бандыты і ў горадзе пануе закон джунгляў. Маскалі пакрыўдзіліся і падалі на выдавецтва ў суд. Але суд, вывучыўшы справу, пацьвердзіў, што і бандыты і закон джунгляў- чысьціткая праўда.

Дык мо панаравім з «інтэграцыяй»?

, ві

## ЗАКАХАНЫ КАМБАЙНЕР.

Адзін хлопец-дубровец уначы залез у канбай, завёў яго і паехаў у Кабульшчыну на гулі да дзевак. Вартаўнік не зьвярнуў асаблівае ўвагі на незвычайна раны выезд машыны з двара. Але адзін з дзяжурных малодшых начальнікаў пагнаўся за згоншчыкам а той, маладасьведчаны, ужо пасьпеў урэзацца ў прыдарожную бярозу. Пашкоджана жнейка.

*Віншуем Краўчанку Уладзіміра і Марыю з уступленнем у шлюб. Шчасьця і радасьці вам надоўга.*

*Віншуем Тукачоў Віталю і Наталлю з нараджэннем першынца Хай малы радуе бацькоў і дзядоў.*

Пайшоў ад нас
добры беларус, добры сусед
вясёлы чалавек, гароўнік
**Кароль Міхайла Захараў.**
Недарэчна і трагічна загінуў
Хай табе зямля будзе мяккай, дружа Міхась.
Спачуваем жонцы і сыну.
Суседзі.

Пайшоў ад нас
добры лагодны беларус,
**Друзік Васіль Паўлаў.**
Спачуваем жонцы і дочкам.

Друкарня імя І. Масьціцкага. 100 асобн

# «САМЫЯ ШЧАСЬЛІВЫЯ НА СЬВЕЦЕ »

«гэта нашы радасныя дзеці, бо аб іх клапоцяцца няспынна партыя, народ і ўся краіна.» Так афіцыйна- ўзьнёсла трубіў нейкі паэт. Перабольшуваў, перабіраў ачко, але не надта.

Так, у сярэдзіне жніўня адбылася атэстацыя школы да новага навучальнага году. Гарадзкая камісія была задаволёная. У Дуброве правільна падхапілі лозунг «прыгажосьць ўратуе» і пастараліся. І трэба сказаць, што і тэхнічкі і настаўнікі пашчыравалі, хоць грошай на рамонт было небагата. Страху не чапалі, а яна, рубероідная, цяклівая амаль як рэшата.

Ды і ў іншых школах стрэхі цякуць: партыя, народ і ўся краіна не надта шчодрыя да адукацыі. <u>На фізічную культуру і ейныя прычындалы сёлета ў раёне не далі ні шэлега.</u>

Наагул, на рамонт і ўпарадкаванне навучальных і дашкольных устаноў партыя, народ і ўся краіна амаль не даюць грошай. Калі ж дырэктар ці загадчыца неяк недзе знойдуць грошы, партыя нахрапам патрабуе тлумачэння «Дзе ўзяў?», прыстае з апрыходваннем сродкаў і на ліхі лад, выкрутлівы начальнік можа сесьці ў турму. Вярхоўны старчаковы Шацілкаўскага раёну сп. Баляслаў так заявіў аднаму дырэктару: «З грашмі я і сам адрамантую, ты мне не трэба. Ты без грошай адрамантуй!». Як у той казцы пра поліўку з сякеры.

А вось такая гісторыя. Нейкі замежны дабрадзей пабыўшы ў адной нашай школцы і пабачыўшы яе выняў з штаноў міжнародныя грошы/ еўры і аддаў дырэктару на рамонт. Дык цяперака той дырэктар адбіцца не можа ад начальнікаў, бо тыя патрабуюць справаздачу пра чужыя грошы! Ды юрыдычна іх няма, але справаздачу дай як мае быць! Так што і браць у дабрадзеяў небясьпечна.

Як заўсёды ў апошнія гады падручнікі па шэрагу прадметаў у школу не прышлі. Усё меней прыходзіць дзяцей і іхняя колькасьць імкліва імкне ўніз.

Зараз у школе мо 84 вучні. Як кажуць настаўнікі, якасьць дзяцей ніжэе і ніжэе, бо прыходзяць цяпер яны з неўладкаваных сем"яў- гэтага жахлівага масавага прадукту лукашысцкай эпохі.

У Кабульшчыні ды Гарохаўі таксама дзяцей у школах паменела, дзе 75, дзе 60. Як так будзе, то хто ж нас, пеньсіянераў, пракорміць? Лука ж не вечны.

На добры лад такім дробным школкам трэба іншы рэжым працы, але міністэрства адукацыі ў нас гаўнянае, міністр малпа, яму болей карціць як у школы пісьменнікаў не пусьціць, як студэнтаў шчэ болей заціснуць, як дыктатару латвей дагадзіць. Пра дзяцей і іхнія веды турбота не найпершая. Так і жывом. Канешне, Еўропа- гэта Еўропа. Нам пашанцавала. Бо багата дзе ў сьвеце дзеці аніблізка не бачаць такіх умоў для навучання. Нам як казка тое, што змалку дзеці ў бедных краінах мусяць цяжка працаваць, у школу не йдуць, бо яе ці няма, ці месца не хапае ўсім.

У Беларусі ганарацца «воінамі- афганцамі». Ганарыцца няма чаму, бо менавіта савецкая вайна зруйнавала краіну, пакінула мноства дзяцей сірот. **Дык чаму б замест крывадушных словаў пра змушаны геразм беларускаму ўраду не збудаваць у Аўганістане іншы помнік, а менавіта- дзесятак школаў для пазбаўленых шчасьця навукі аўганскіх дзетак.**

От гэта і было б сапраўднае ўсьведамлення таго страшнага, што адбылося.

---

# ЧАКАЕМ АГРАМЯСТЭЧКА

От ужэ мінуў жнівень, а ў арцелі Дуброва-Агра шчэ не давалі людзям сена. З гэтай нагоды ладнага народу пачынае казаць, што налета не будзе трымаць кароў.

Людзі старэюць, не маюць сілы ды і плошчаў для нарыхтоўкі сена, таму паволі прападае гавяда з сяла.

Камунізьм прыпаўзе да нас без нашай згоды ў форме вёсак састарэлых людзей. Татальны мёртвы камунізьм.

Лінія Сталіна...
Лінія страхоцця...

# ПАПРАСІЛІ ПАДМОГІ

У чэрвені і ліпені стаяла крэпкая сьпёка. Але гэта ж лета. У Аўстраліі цяперака зіма, але сьпёка стаіць адмысловая. Німа ніяк дажджу. Дык урад штату Квінслэнд папрасіў сьвятароў усіх рэлігій, памаліцца сваім багом і папрасіць дажджу.

У нас, як ведаюць усе, дож дае толькі адзін суперБог, як выказаўся ў свой час гаўляйтэр Берасьцейскай вобласьці. Таму ў Беларусі з дажджамі прашчэй. Папрасі Луку і ён дась.

Але найперш трэ беражыць тую ваду, што ёсьць у зямлі. Але беларускія дурні ізноў пачалі бязладную прымітыўную «меліярацыю» у нашых бедных на ваду мясьцінах. От наплачуцца пасьлей, ды позна будзе. А мо і плакаць не будзе каму...

# ЖЛУКЦЯЦЬ З ПАТУРАННЯ ДЗЯРЖАВЫ.

Манаполька...

Яна прытулілася ў сярэдзіне Дубровы і тырчыць у ёй, як клешч на палойцы. Ад ранняга рання і да вячэрняе прахалоды крыцаю сядзяць на дубовых кульбяшах ля манаполькі мясцовыя выпівакі і жлукцяць і цundзяць таннае пойла з дзяржаўных пойлавых заводаў.

Здэцца, публічнае спажыванне алкаголю не дазваляецца законам, але цундаў ніхто не чапае. Данежне! Прагані іх з кульбяшоў, дык і паступлення грошыкаў у казну паменее. Хай п"юць...

Хто ж п"е?

П"юць пеньсіянеры, прафесійныя камуністы, якія за «парцію», якую яны прадалі і якую страшна любяць, гатовыя бэнээфу вочы выдраць. П"е люмпен-пралетар, які неяк здабывае грошы на пойла. П"юць мужчыны рэпрадуктыўнага працоўнага веку. Зьбяруцца вакол кульбяша, як мухі ля каўляша і пакланяюцца пляшцы пойла псівага колеру.

П"юць і бабу, але яны хаваюцца па хатах. П"юць і хворыя на цукроўку.

Дык ці ж дзіва, што могілкі прынялі багата мужчын сярэдняга веку.

А ў сельсавета адзін клопат- платы.

# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ №94 ЖНІВЕНЬ 2006

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## МАЛЕНЬКІЯ САКРЭТЫ ВЯЛІКІХ ПЕРАМОГ

Як ведама, галоўным гваздом сезону ёсьць бітва за ўраджай. Вядома, калі той ураджай ёсьць.

На просьценькае пытанне заезджых людзей, як ураджай, работнікі і работніцы збожжатоку неяк мулiлiся і пазьбягалі ўцямнага адказу. Але кінуўшы вокам на груду збожжапустазелля рабілася ясна: ураджай мо стопудовы.

Сітуацыю праясьніў пабочны грамадзянін: Раз патрэбныя тоны, то іх даюць проста: не ставяць належнай колькасьці рэшатаў і ўсё, што застаецца пасьля правеянай саломы, абвяшчаецца збожжам.

Канешне, палі дашчэнту засьмечаныя, (унь у Масьцішчах, адно пур"я ды непрыбраная салома дагнівая), аграномы мяняюцца штогод, калгасны гной навясьне плыве на экспарт у Шацілкі. Дык скуль жа ўзяцца якаснаму зярняці? Ды тае бяды!

Раз прызначылі Бабрусяк сталіцай скокаў за ўраджай, то быў той ураджай ці не- скакаць перад тэлекамарамі - паскачуць.

Праўда, дзякуючы спрыяльнаму надвор"ю была неблагая трава ды на балотах выраслі кіяшы.

Але ўсёроўна прыкра, што з-за дурной каманды зьверху і для патрафлення самадурству даводзіцца людзям лабаду лічыць жытам.

## УТРЫМАЎСЯ

Непрыемныя моманты давялося перажыць тутэйшаму старшыні арцелі. Кажуць, гаспадары з Гомельдрэўэнерга былі не дужа задаволены тутэйшымі вынікамі гаспадаравання і хацелі замяніць начальніка некім іншым. Выбар у іх не тлусты. Знайшлі сяк-так хлапца. Але той іншы, зірнуўшы на Дуброва-трава-Агра, не захацеў зьвязвацца зь ліхам і, такім чынам,

як кажуць набліжаныя да старшыні людзі, тутэйшаму старчаковаму сп. Б. Пірштуку давялося на коленцах прасіць яго застацца шчэ трохі парулюваць.

Зарана, зарана радаваліся некаторыя і паціралі ручкі ў прадчуванні зьмен. Хто б ні ўссеў на дуброўцаў, ім падымаць і калхоз і старшынь.Тутэйшы вядомы тым, кажуць, што лаканічна маўчыць з работнікамі.

От той у Менску, той гаваркі, ніхто зь ім не згаворыцца. І не скалупне.

**Два дні чатыры канбаі** жалі ля Дубровы палеглы лоскам ячмень. Канбаі былі такія парваныя, што праз тыдзень палетак зелянеў рунню, бы яго засеялі ў два пласты

Тады палетак перадыскавалі і ён зазеляпеў шчэ болей. Тады яго пераарaлі, але ячмень ізноў рос і рос. Урэшце, яго пракультывавалі драпачамі і заселі сеялкамі.

Цяперака можна не баяцца дружных узыходаў пасьля дажджоў.

## НАПАДАЮЦЬ НА ВІЦЮ КОТЧАНКУ

У Кадашы ведаюць мо ўсе, а ў Дуброві мала хто, што навясьне прапалі мо дзьве з гакам тысячы літраў паліва, якія быццам бы былі ў ёмістасьці на калгасным падворку. А як на тое ліха вартаўніком на тым кадашоўскім падворку быў Віця Котчанка. От на яго і хочуць узваліць прапажу.

Сам Віктар моцна сумняваецца, ці была тая прапажа наагул: усе замкі на ёмістасьці былі замуканыя і непашкоджаныя. Але калі ійе прапажа, то трэ знайсьці вінаватага. Вінаватым хочуць зрабіць Віцю.

Калі гэтак здарыцца, то небараку вартаўніку тры гады давядзецца вартаваць дарэм, бо яму плацяць мо рублёў 120 (000) за месяц. І толькі калі віцява жонка пасварыцца ў бугалтэрыі, то яму могуць дадаць трыццаць-сорак (000) рублёў.

Віця вельмі зажураны.

Цяперака ля ёмістасьці паставілі дзяжурны ліхтар. А толку што?

Гісторыя банальная. Не раз даводзілася назіраць, як кінуўшы калгаснае што-небудзь дзе- небудзь калгасная буржуазея спрытна прыбірае тое, замесь нічыйнае, дабро, сабе, а пасьля бегае і робіць выгляд, што шукае, часам і з міліцыяй. (Памятаеце, летась у Дуброві прапаў гноераскідальнік, тропаску нарабілі, а ён дзе быў? Правільна. У начальніцкім двары.)

Таму матэрыяльна адказнаму працоўнаму трэ пільна і войстра трымаць вуха ратуючыся ад правакацый.

Жадаем Віцю Котчанку адстояць сваю невінаватасьць.

## ЛЕС- НАША БАГАЦЦЕ.

На багаты на ягады сезон насунуўся грыбовы сезон. Дзякуючы дажджом у лесе хапае грыбоў і на дапамогу вёсцы сьпяшаюцца гарадзкія.

Штораніцы дуброўцы цугам цягнуцца ў Ацяты, у іншыя лясы і праз некалькі гадзін нясуць вёдры розных грыбоў- ні то расьлін, ні то жывёл.

А па вікэндах, па-нашаму выходных днях, па лесе шныпараць легкавушкі і канкурэнцыя за рэсурсы дужа значная. Таму шанцуе тым, хто загадзей прыйдзе ў лес і натрапіць на ўрадівую лапеку. Удача яму гарантаваная.